Грамадзянская кампанія «Беларусь без палітвязняў!»

# ПАЛІТВЯЗНІ

красавік 2012, бюлетэнь газеты «НАШ Магілёў», №2



## АНДРЕЙ САННИКОВ И ДМИТРИЙ БОНДАРЕНКО НА СВОБОДЕ

Один из кандидатов на пост президента во время президентской кампании 2010 года, Андрей Санников был арестован 19 декабря 2010 года и осужден на пять лет лишения свободы в колонии усиленного режима по обвинению в организации «массовых беспорядков». Так власти называли многотысячную мирную акцию протеста против фальсификации итогов президентских выборов 19 декабря 2010 года.

Дмитрий Бондаренко был ключевой фигурой команды кандидата в президенты Андрея Санникова на президентских выборах 2010 года. Бондаренко был арестован 20 декабря 2010 года и приговорен к двум годам лишения свободы в колонии общего режима. Сразу после ареста в декабре 2010 года у него обострились хронические заболевания, в июле 2011 года ему сделали операцию на позвоночнике.

В настоящее время Андрей и Дмитрий уже находятся в Минске, вместе со своими родными и друзьями.



## З БЯЛЯЦКАГА ДЗЯРУЦЬ ТРЫ СКУРЫ, ПАЗБАЎЛЯЮЧЫ МАГЧЫМАСЦІ ВЫЗВАЛЕННЯ



**Суд Першамайскага раёна Менска па грамадзянскім іску падаткавай інспекцыі Першамайскага раёна спаганяе з Алеся Бяляцкага больш за 140 мільёнаў пені – за несвоечасовую ўплату сумы запазычанасці. Пры тым, што сплочаная праваабаронцам у студзені сума паводле прысуду ўжо была праіндэксаваная з улікам інфляцыі, пасля чаго павялічылася больш як удвая.**

Грамадзянскую справу 29 сакавіка разглядала суддзя Першамайскага суда Вольга Багам'я з удзелам прадстаўнікоў падаткавай інспекцыі Першамайскага раёна Собалевай, Тодрык і Карташовай. Аднак, як адзначае намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч, ні калегі Алеся Бяляцкага, ні яго сям'я пра гэты судовы працэс нічога не ведалі. "Рашэнне суда Першамайскага раёна ад 29 сакавіка 2012 года было дасланае самім Бяляцкім жонцы Наталлі па пошце, - распавядае Стэфановіч. – Суд адбываўся ў адсутнасць Бяляцкага, і ў судовым рашэнні ўказана: "адказчык у судовае паседжанне не з'явіўся, знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі, пра дату і час разгляду справы апавешчаны належна. Ну, а як ён мог з'явіцца, калі знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі!"

Адвакат Алеся Бяляцкага падчас разгляду грамадзянскай справы ў судзе таксама не прысутнічаў.

**працяг на стр.4**

**НАШ МАГІЛЁЎ**

**http://gazetanm.eu**

**першая незалежная газета горада**

**Паважаныя магілёўцы!**

**Газета "НАШ Магілёў" працягвае вас інфармаваць аб найбольш цікавых падзеях з жыцця нашай краіны і горада.**

У сувязі з тым, што працяглы час у краіне існуюць людзі асуджаныя за палітыку мы вырашылі ініцыяваць тэматычны выпуск бюлетэня "Палітвязні". На старонках новага бюлетэня вы здолееце азнаёміцца з жыццём і лёсам людзей, якія адбываюць свае пакаранні за палітыку.

Мэта нашага бюлетэня – гэта інфармаванне гараджан аб наяўнасці ў краіне палітвязняў і праз грамадскае асуджэнне, салідарнасць і актыўнасць вызваленне іх з-за кратаў. На старонках нашага абноўленага сайта працуе рубрыка "Навіны палітвязняў". Яна абнаўляецца штодзённа. Заходзьце і будзьце ў курсе апошніх падзей.

# К СТАТКЕВИЧУ В КАМЕРУ ПОДСАДИЛИ УБИЙЦУ ИЗ «ЭСКАДРОНА СМЕРТИ»

**Мониторинговой группе ИПУ «Платформа», проводившей работу в г. Могилеве, удалось получить информацию об условиях содержания Николая Статкевича в могилёвской тюрьме.**

Как сообщил источник из администрации могилевской тюрьмы №4, Николай Статкевич продолжает содержаться в СИЗО г. Могилева, в камере с еще одним заключенным.Однако, личность этого заключенного вызвала удивление, видимо, не только у сотрудников ИПУ «Платформа».

Как оказалось, в тюремную камеру к Николаю Статкевичу из Новополоцкой колонии переведен бывший заместитель командира в/ч 3214 по физической подготовке Андрей Васильев, осуждённый в 2002 году на срок в 21 год.

В последней серии политического сериала «Крестный батька», показанном на телеканале НТВ, было заявлено, что майор Андрей Васильев никогда не скрывал своего личного участия в похищении и убийствах лидеров оппозиции Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского и журналиста Дмитрия Завадского в 1999-2000 годах. Впрочем, сам Васильев в эфире БТ опроверг свою причастность к «эскадронам смерти».

Перевод Андрея Васильева в камеру к Статкевичу вызывает много вопросов.

Вероятнее всего и в дальнейшем освобождать политзаключённых Лукашенко собирается только после того, как будут написаны прошения о помиловании. Вероятно, цель подобного перевода — не только оказать давление на Николая Статкевича, но продемонстрировать свою «власть» над его жизнью и здоровьем, чтобы повлиять на позицию Европейского союза.



С Николаем Статкевичем, скорее всего, спецслужбы зашли в тупик.

Сначала перевод в тюрьму и содержание в СИЗО с больным туберкулезом, теперь участник «эскадронов смерти».

Очевидно, спецслужбы пытаются в максимально короткие сроки предоставить Лукашенко «прошения» о помиловании, чтобы тот мог «убить сразу двух зайцев». Выполнить требования Евросоюза, отпустив политзаключенных, и иметь возможность выставить их в «поверженном» состоянии, как обратившихся с просьбой «помиловать», либо уничтожить их физически и морально.

Для Лукашенко нужна хотя бы иллюзия победы, дающая ему возможность остаться «ненаклоняемым».

## ООН ПРИЗЫВАЕТ ОСВОБОДИТЬ ОСТАЛЬНЫХ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ

**Комитет ООН по правам человека в Женеве распространил пресс-релиз по поводу судьбы белорусских политзаключенных.**




Приветствуя освобождение из тюрьмы двух оппозиционных лидеров, комитет ООН призывает белорусские власти начать процесс диалога с оппозицией и без всяких условий освободить остальных политзаключенных, отбывающих свое наказание за реализацию фундаментальных прав человека, передает «Радыё Свабода».

Как отмечается в заявлении, многие из этих людей были арестованы за свое участие в мирной послевыборной демонстрации 19 декабря 2010 года, которая была разогнана милицией и спецназом. В результате около 40 лидеров и активистов были приговорены к заключению, в том числе Андрей Санников — к пяти, а Дмитрий Бондаренко — к двум годам колонии. Оба уже вышли на свободу. К именам узников Площади, которые еще остаются в заключении, комитет ООН добавляет и имена Сергея Коваленко и Алеся Беляцкого, также требуя их освобождения.

Комитет ООН по правам человека призывает белорусские власти предпринять необходимые шаги, чтобы правозащитники и журналисты могли выполнять свою работу без запугиваний, препятствий и давления. Правозащитный орган ООН также предлагает свою помощь властям Беларуси в обеспечении гражданских и политических прав белорусского народа.

## КАНГРЭСМЭН СЬМІТ: «МЫ МАЕМ ПАДВОІЦЬ НАМАГАНЬНІ, КАБ ДАМАГЧЫСЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ»

**«Вызваленьне палітычных зьняволеных Андрэя Саньнікава і Зьмітра Бандарэнкі пасьля 16 месяцаў пазбаўленьня волі, зьяўляецца крокам у правільным кірунку», — заявіў старшыня Хэльсынскай камісіі ЗША кангрэсмэн Крыстафэр Сьміт.**

«Урад Беларусі павінен зрабіць наступны крок і неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітычных зьняволеных, у тым ліку Міколу Статкевіча, Алеся Бяляцкага, Сяргея Каваленку, Зьміцера Дашкевіча, Паўла Севярынца, Міколу Аўтуховіча, Эдуард Лобава, Мікалая Дзядка ды іншых. І гарантаваць ім поўнае аднаўленьне іхных грамадзянскіх і палітычных правоў», — адзначыў Сьміт.

«Хоць я вітаю вызваленьне Саньнікава і Бандарэнка, і падзяляю шчасьце іхных сям'яў і сяброў, мы павінны падвоіць нашы намаганьні, каб дамагчыся вызваленьня палітычных зьняволеных», — дадаў кангрэсмэн.

Камісія па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе, вядомая таксама як Хэльсынская камісія ЗША, зьяўляецца незалежным агенцтвам фэдэральнага ўраду, якой даручана сачыць за выкананьнем Хэльсынскіх пагадненьняў і прасоўваньня ўсёабдымнай бясьпекі праз заахвочваньне правоў чалавека, дэмакратыі і эканамічнага, экалягічнага і вайсковага супрацоўніцтва ў 56 краінах.

# ІНІЦЫЯТЫЎНАЯ ГРУПА ВУСА ДАБІВАЕЦЦА ВЫЗВАЛЕНЬНЯ СТАТКЕВІЧА



**Сябры ініцыятыўнай групы па зьмяненьні выбарчага заканадаўства, створанай былым кандыдатам у прэзыдэнты Дзьмітрыем Вусам, накіравалі эўрапейскім лідэрам заяву з просьбай хадайнічаць аб вызваленьні палітвязьня, былога кандыдата ў прэзыдэнты Мікалая Статкевіча.**

Заява, прынятая на паседжаньні ініцыятыўнай групы, накіраваная Вярхоўнаму прадстаўніку па зьнешніх справах і палітыцы бясьпекі Кэтрын Эштан і Эўракамісару па пытаньнях пашырэньня і палітыцы добрасуседзтва Штэфану Фюле.

Падпісанты заявы даводзяць, што «ў турме гвалтоўна ўтрымліваюцца экс-кандыдат у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь Мікалай Статкевіч і іншыя палітзьняволеныя. Іх жыцьцё ў небясьпецы, у дачыненьні да іх ужываюцца катаваньні».

У заяве выкладзеныя факты біяграфіі Мікалая Статкевіча, якія сьведчаць, што ён «яркі лідэр беларускай палітыкі, афіцэр, навуковец».

Нагадваецца, што «29 сакавіка 2012 году ў Брусэлі разглядаўся праект па мадэрнізацыі з удзелам беларускіх і эўрапейскіх палітыкаў».

Падпісанты заявы лічаць, што «разглядаць любыя праекты без удзелу сапраўднага беларускага лідэра Мікалая Статкевіча — беспэрспэктыўна для будучыні Рэспублікі Беларусь. Удзел у такіх праектах штучна разьдзьмутых людзей-брэндаў — небясьпечны і гібельны для нашай краіны. Ніякія праекты і перамовы з боку ЭЗ немагчымыя, пакуль грамадзянін Лукашэнка незаконна ўтрымлівае ўладу і трымае закладнікаў».

Таму падпісанты хадайнічаюць, каб Кэтрын Эштан і Штэфан Фюле «безумоўна настойвалі на вызваленьні Мікалая Статкевіча і ўсіх палітзьняволеных і іх поўнай рэабілітацыі».

Заяву падпісалі экс-кандыдат у прэзыдэнты Дзьмітрый Вус, яго давераныя асобы Алена Фаміна, Уладзімер Катрыч, Аляксандар Ірхо, Яўген Парчынскі, Уладзімер Каўганаў, давераныя асобы Мікалая Статкевіча Аляксей Гаўруцікаў, Юры Захаранка, Віктар Чайкоўскі, праваабаронца Уладзімер Берасьнёў, сябра «Эўрапейскай Беларусі» Канстанцін Азарушкін.

Былы кандыдат на прэзыдэнта Мікола Статкевіч. Затрыманы 19 сьнежня 2010 г. пасьля акцыі пратэсту супраць фальсыфікацыі вынікаў выбараў і зьмешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках. 26 траўня 2011 г. судзьдзя Ленінскага суду Менску Людміла Грачова асудзіла Статкевіча на шэсьць гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Адбывае пакараньне ў Шклоўскай калёніі № 17. Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала яго вязьнем сумленьня.

# СЕРГЕЙ КОВАЛЕНКО ПРЕКРАТИЛ ГОЛОДОВКУ

**Политзаключенный Сергей Коваленко начал самостоятельный выход из голодовки. Об этом сообщил отец узника Александр Коваленко, который 13 апреля видел сына в психиатрической больнице в Новинках.**



- Он сказал, что начал пить соки и самостоятельно есть. Зонд ему уже не ставят, капельницы тоже, - сказал отец активиста в интервью Радыё Свабода. - Настроение у него нормальное, много расспрашивал о семье. Говорит, что обращение в больнице гораздо лучше, чем в колонии «Витьба-3».

Он также рассказал, что в колонии Сергей даже хотел резать себе вены.

— Жаловался, что в "Вітьбе-3", когда он хотел ехать на кассацию, его привязали к кровати и держали так три дни. Кололи разные препараты. В уборную не выпускали, вводили катетер в мочевой пузырь. Даже хотел себе вены резать на руке, показывал мне следы от катетера. Тогда его собрались и сюда, в Минск, отправили, — рассказал отец.

Как рассказала «Салідарнасці» супруга политзаключенного Елена, Сергей окончил голодовку в день, когда его доставили «Новинки». До этого активиста уже кормили принудительно через зонд.

Напомним, 10 апреля Витебский областной суд назначил Сергею Коваленко комплексную психиатрическую экспертизу и направил в «Новинки» на обследование.

До заключения врачей Витебский областной суд не будет рассматривать кассационную жалобу на приговор Коваленко, осужденного на два года и месяц лишения свободы за нарушение условий отбытия «домашней химии». Так суд наказал активиста КХП-БНФ за вывешивание бело-красно-белого флага на новогодней елке в Витебске.

С 19 декабря 2011-го в знак протеста против приговора Коваленко голодал с небольшими перерывами. В изоляторе ему принудительно ставили капельницу и привязывали к кровати. Кроме того, за решеткой его кормили насильно.

Кроме того стало известно, что польский политик Марек Мигальский взял опек над Сергеем Коваленко.

«Я восхищаюсь его упорством в борьбе за свободную Беларусь. К сожалению, в стране, где правит Лукашенко, даже его простой жест солидарности и преданности демократическим свободам жестоко преследуется по закону», - заявил политик.

Марек Мигальский сообщил, что он обратился с призывом в письменной форме в Верховный суд и Генеральную прокуратуру Республики Беларусь, а также, к президенту Европейского парламента Мартину Шульцу.

# З БЯЛЯЦКАГА ДЗЯРУЦЬ ТРЫ СКУРЫ, ПАЗБАЎЛЯЮЧЫ МАГЧЫМАСЦІ ВЫЗВАЛЕННЯ

**(працяг)**

“На падставе акта праверкі ад 15.08.2011 №249 Інспекцыяй 29.09.2011 вынесена рашэнне №516 пра спагнанне падаходнага падатку на суму 208 556 390 рублёў і пені па падаходным падатку на суму 120 615 000 рублёў.

Паколькі адказчыкам у добраахвотным парадку сума запазычаннасці не пагашана, прасілі спагнаць з Бяляцкага А.В. запазычаннасць у памеры 497 366 764 рублі, якая складаецца з падаходнага падатку ў суме 352 274 362 рублі, пені ў суме 145 092 402 рублі.

У судовым паседжанні прадстаўнікі істца іскавыя патрабаванні ўдакладнілі, прасілі спагнаць з Бяляцкага А.В. суму пені ў памеры 140 366 151 рубель за перыяд з 16 траўня 2008 года па 19 студзеня 2012 года”, - паведамляецца ў рашэнні суддзі Багам’і па выніках разгляду грамадзянскай справы.

У дадзенай сітуацыі паўстае пытанне: на якой падставе судом Першамайскага раёна Менска была праведзена індэксацыя сумы так званага ўрону, што адлюстравана ў прысудзе? З гэтым пытаннем паспрабавалі разабрацца юрысты ПЦ “Вясна”. Пасля атрымання судовага рашэння па грамадзянскай справе пра спагнанне пені Валянцін Стэфановіч з Наталляй Пінчук наведалі падатковую інспекцыю Першамайскага раёна.

“Была там размова на гэтую тэму, - распавядае Стэфановіч. - І прадстаўнікі інспекцыі, з якімі мы размаўлялі, сказалі, што яны тлумачылі “ім” (я перапытаў , каму гэта “ім”, яны адказалі - “пракуратуры”), што сума гэта не павінна індэксавацца. І сказалі, што гэта падыход ІМПЗ у дадзеным выпадку, але гэта не было пачута”.

Падчас разгляду крымінальнай справы ў судзе Першамайскага раёна пракуратура прасіла спагнаць з Алеся Бяляцкага “нанесеную шкоду дзяржаве ў выглядзе нявыплачанага падаходнага падатку” на суму 352.274.360 рублёў (плюс дзяржаўная пошліна), праіндэксаваўшы яе з улікам інфляцыі. Што суд і зрабіў. Аднак! У сваім іску пракуратура не спасылалася ўвогуле ні на якія нормы закона, на падставе якіх яна магла б лічыць, што сума павінна быць праіндэксаваная. Не зразумела і тое, якія каэфіцыенты пры гэтым выкарыстоўваліся.

“Суд нейкім “цудоўным” чынам




праіндэксаваў гэтую суму, і яна ператварылася з 350-ці з нечым у больш за 750 мільёнаў рублёў, - адзначае Валянцін Стэфановіч. - Натуральна, і абаронца Алеся і мы не пагадзіліся з тым, што сума была праіндэксаваная, паколькі Падатковы кодэкс не прадугледжвае якую-небудзь індэксацыю. Падаткавае заканадаўства прадугледжвае толькі адзін від “асучаснівання” запазычанасці – пеню, якая вылічваецца, зыходзячы са ставак рэфінансавання”.

Аднак прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці прыйшлі да высновы, што трэба правесці кампанію па зборы сродкаў і сплаціць суму - дзеля вызвалення Алеся Бяляцкага. Уся сума – праіндэксаваная! – была сплочана.

“І зараз з’яўляецца гэты іск пра спагнанне пені за несвоечасовую сплату запазычаннасці, якая вылічваецца з моманту паступлення плацяжоў у 2008 годзе на рахункі Алеся Бяляцкага да моманту ўнясення Наталляй Пінчук грашовых сродкаў на рахунак суда ў 2012 годзе – агулам больш за 140 мільёнаў рублёў, - кажа Стэфановіч. - То бок, атрымліваецца, што пеня спаганяецца з сумы запазычаннасці, якая, праіндэксаваная, павялічана больш як у два разы. Гэта абсалютна неправавы падыход у дадзенай сітуацыі. Бо павінна быць сумма запазычаннасці – 350 з нечым мільёнаў плюс пеня - 140 з нечым мільёнаў. І агульная сума, такім чынам, павінна была б складаць каля 500 мільёнаў. А зараз атрымліваецца, што яна дасягае ўвогуле 900 мільёнаў”.

Адвакат Бяляцкага Дзмітрый Лаеўскі яшчэ на этапе абскарджання прысуду ў касацыйнай інстанцыі ўказваў на неправамернасць індэксацыі сумы “нанесенай шкоды”, аднак калегія Менскага гарадскога суда не дала ніякай ацэнкі. Пасля гэтае пытанне адвакат ставіў у наглядной скарзе, пададзенай на імя старшыні гарадскога суда.

Па словах праваабаронцаў, зараз будзе пададзена касацыйная скарга на рашэнне суда Першамайскага раёна па грамадзянскай справе пра спагнанне пені. Таксама будзе пададзены дадатак да наглядной скаргі, накіраванай адвакатам на імя старшыні Менгарсуда, дзе, акрамя патрабавання адмены прысуда па крымінальнай справе Алеся Бяляцкага, гаворыцца пра ўказаныя абсалютна неправавыя падыходы пракуратуры.

Па меркаванні праваабаронцаў, гэта акалічнасць толькі падкрэслівае чыста палітычны матыў справы Алеся Бяляцкага. Па словах юрыста ПЦ “Вясна” Уладзіміра Лабковіча, цяпер улады маюць новы “козыр”.

“Да з’яўлення іска пра спагнанне пені ў сённяшняга рэжыма былі ўсе прававыя падставы, каб прымяніць у дачыненні да Бяляцкага памілаванне, і ён таксама мог бы быць вызвалены. Але зараз абсалютна палітычна створана штучная прававая перашкода для прымянення працэдуры памілавання - новыя матэрыяльныя прэтэнзіі да яго, - заяўляе Лабковіч. - Мы лічым, што гэта зроблена выключна для таго, каб было чым тлумачыць немагчымасць прымянення да Бяляцкага любых формаў па скарачэнні тэрміна яго зняволення – умоўна-датэрміновага вызвалення, амністыі, памілавання”. Праваабарончы цэнтр “Вясна” разглядае гэтае палітычнае рашэнне пра стварэнне фармальных прычынаў немагчымасці вызвалення Алеся Бяляцкага як элемент расправы над ім і ціск на яго паплечнікаў.



Бюлетэнь “Палітвязні”
Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда
Наклад - 299 асобнікаў.
Надрукавана на ўласным абсталяванні.
Распаўсюд бясплатны.
Адрас электроннай скрынкі: gazetanm.eu@gmail.com